

DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 2 (47) ЛЮТЫ 2006 г.



**Кастусь Шыдлоўскі**

# З літаратурнага краязнаўства. Браслаўшчына на старонках літаратурных твораў

**Заканчэнне. Пачатак у №1 (46)**

Адным з самых цікавых твораў, дзеянні якога адбываюцца ў тым ліку і на Браслаўшчыне, з'яўляецца раман сучаснага літоўскага пісьменніка Вітаўтаса Місявічуса "Мядзвежая акадэмія". Раман быў напісаны ў 1977 г. і апублікаваны ў віленскім выдавецтве "Vaga" у 1978 г. У 1988 г. выйшаў беларускі пераклад рамана з пасляслоўем вядомага даследчыка Адама Мальдзіса (В.Місявічус. Мядзвежая акадэмія. Мінск. Мастацкая літаратура. 1988 г.). Мядзвежай акадэміяй называлі ўнікальную школу па прыручэнню і дрэсіроўцы мядзведзяў, якая існавала ў Смаргоні. Тамтэйшых гадаванцаў можна было сустрэць на абшарах Вялікага княства Літоўскага, Польшчы, Заходняй Еўропы. Раман напісаны ў стылі еўрапейскай прыгодніцкай прозы з разнастайнымі здарэннямі, таямніцамі, нечаканай развязкай. Асноўныя падзеі адбываюцца ў XVIII ст. у Смаргоні, Нясвіжы. У рамане адлюстраваны адзін з вядомейшых уладароў Нясвіжа - легендарны Кароль Радзівіл ці "Пане Каханку", аматар розных забаў, гулянак, палявання, жорсткі, свавольны чалавек. З Каролем Радзівілам звязаны эпізод, які пераносіць чытача ў наваколле мястэчка Відзы, дзе існавалі багатыя паляўнічыя ловы (адсюль і Відзы-Лаўчынскія). Пасля ўрачыстага банкету ў Смаргоні князь Радзівіл у прыяцельстве пісара літоўскага Паца, маршалка Нарбута, шматлікай світы выпраўляецца на паляванне ў відзаўскія ловы. Згадваецца адзін з жартаў князя – ён загадаў выпусціць у поле зайца, да спіны якога была прымацавана папяровая фігурка мужыка, а наўздагон пса – Трызора з фігуркай улана, узброенага пікай. Жарт не атрымаўся: сабака не столькі бег за зайцам, колькі спрабаваў скінуць цяжар са спіны. Раззлаваны князь загадаў павесіць сабакара Урбана, а сабаку адлупцаваць бізунамі.

Апісваецца шыкоўны банкет наладжаны Радзівілам у паляўнічым замку. Вось, напрыклад, была пададзена такая незвычайная страва: "*Спярша паставілі вялікія місы, падобныя на арліныя гнёзды. Госці пачалі глытаць сліну: у гнёздах ляжалі велізныя яйкі. Гэта адна з кухарыных фантазій: з некалькіх дзесяткаў яек ён узяў і зліпіў жаўткі ў адно вялікае яйко. Потым гэты камяк зварыў у пухіры, а зверху абліў бялком. Натоўк шкарлупіны, размачыў яе ў воцаце і тою кашкаю пэндзлем абмазаў яйка. Колерам яно было як сапраўднае. Госці ўсё стараліся выведаць сакрэт, як яно робіцца. А востры на язык відзаўскі панок сказаў:*

*– Панове! Лепш не дапытвайцеся таго рэцэпта. Хто гэта захоча падаваць гасцям такія вялікія яйкі? Не кажыце, многія з нашай шляхты хутчэй хацелі б адным простым курыным яйкам частаваць аж трох гасцей.*"



Беларускія скамарохі з мядзведзем. Гравюра XVI ст.

На банкеце гучала шмат баек з жыцця князя Радзівіла. Чытач знойдзе тут і гісторыю з палявання, калі Пане Каханку стрэліў вішнёвай костачкай у аленя, а потым сустрэў аленя з дрэўцам на галаве, і гісторыю пра паляванне на мядзведзя з дапамогай аглоблі, змазанай мёдам, і пра шлюб князя ў Венецыі з сірэнай Аквіляй, нашчадкамі якога сталі 100 тысяч селядцоў. Пазней, як сцвярджаў Пане Каханку, некаторыя з гэтых гісторый запазычыў знакаміты барон Мюнхгаўзен. Чатыры дні запар балявалі госці ў відзаўскіх ваколіцах, ажно пакуль адзін з іх – пісар Пац, не памёр проста за сталом: *"завельмі напханае Пацава чэрава лопнула: казулю і кабана, стог пірагоў не зварыць нават страўнік у кіта"*.



**Знакаміты «Пане Каханку»**

Раман вядомага беларускага пісьменніка Івана Шамякіна "Вялікая княгіня", прысвечаны Алене, постаць якой цесна звязана з гісторыяй Браслаўшчыны. Алена, дачка маскоўскага ўладара Івана III, выйшла замуж за вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка з мэтай прымірэння дзвюх суседніх дзяржаў. Аляксандр і Алена пабывалі ў Браславе, Мястэчка ў 1501 г. становіцца ўладаннем княгіні, тут яна памірае ў 1513 г. Падрабязней пра дачыненні Аляксандра і Алены да Браслаўшчыны можна прачытаць у кнізе "Памяць". Калі збіраўся матэрыял для гэтай кнігі, увагу прыцягнула публікацыя ўрыўкаў рамана І.Шамякіна ў газеце "Літаратура і мастацтва". У лісце да пісьменніка звярнуў увагу на сувязь Алены з Браславам, даслаў копію аднаго з дакументаў. Гэтыя матэрыялы І.Шамякін выкарыстаў у сваім творы. Дзеянне рамана адбываецца пераважна ў Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Твор насычаны рознымі драматычнымі калізіямі. Браслаў з'яўляецца напрыканцы рамана, у эпілогу. Сярод іншага ёсць апісанне прагулкі Алены са служанкай па лёдзе возера Дрывяты, адкуль можна было ўбачыць прыгожую карцінку гарадка: *"На пагорку паміж азёрамі Дрывяты і Навяты ўзвышаўся невялікі замак. Нядаўна адноўлены па навейшых узорах, замак выглядаў прыгожа. А ў той дзень з пабеленымі інеем сценамі за чарадой расквечаных інеем вербаў ён узвышаўся як у чароўнай казцы, як незямное, а нябеснае нерукатворнае збудаванне.*



**Княгіня Алена.** ***Ілюстрацыя да выдання рамана І.Шамякіна. 1997 г. Мастак К.Ракіцкі***

*– Паглядзі, Ксенія, як прыгожа!*

*Ксенія павярнулася.*

*– Калі мы ўпершыню прыехалі з Алексам сюды, гэта было гадоў дванаццаць назад, у мяне дух заняло ад прыгажосці. Я пасля сніла гэтыя азёры. І праз год ці два Аляксандр падарыў мне Браслаў. Ніводную сваю вотчыну я так не люблю!"* Раман упершыню апублікаваны ў зборніку «Вялікая княгіня», Мінск, 1997.

Адзін з таленавіцейшых беларускіх пісьменнікаў, вялікі рамантык Уладзімір Караткевіч згадаў Браслаў у паэтычна-узнёслай казцы "Скрыпка дрыгвы і верасковых пустэчаў". Знакаміты на ўсю Беларусь музыка Алесь Бан Жвірба выратаваў ад помсты жорсткага магната двух закаханых – Янука і Марту. Цэлую ноч іграў ён на сваёй цудоўнай скрыпцы на іх вяселлі. Чароўныя гукі музыкі сабралі на вяселле ўсё наваколле і адступіў магнат, які не ведаў літасці. Раніцай наступнага дня людзі даведаліся пра цуд – Алесь Бан Жвірба з нябёсаў дапамог маладым, бо як сказаў адзін са сведак: *"Месяц таму назад, пад Браславам, на гары, проста ў яго ўдарыў Пярун! І давеку ўзяў яго з сабой. Мы тады ж пахавалі яго, праўдзівей, што ад яго засталося, на ўзгорку на беразе возера."* Вялікі народны музыка А.Бан Жвірба дае людзям надзею, што, калі будзе цяжка:

*Выручыць, прыйдзе да вас на сустрэчу,*
*У зачараваны пакліча бор –*
*Скрыпка разлукі і спаткання вечнага,*
*Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў,*
*Пушчаў спрадвечных і светлых азёр.*

Некалькі літаратурных твораў звязаны з маляўнічым Дрысвяцкім возерам і наваколлем. У пачатку 50-х гадоў XX стагоддзя гэтыя мясціны праславіліся на ўсю краіну, дзякуючы гідраэлектрастанцыі "Дружба народаў", якая ўзводзілася па ініцыятыве трох суседніх калгасаў Беларусі, Латвіі і Літвы. Будоўлі прысвячаліся дзесяткі рэпартажаў, нарысаў, што былі апублікаваны ў розных газетах і часопісах былога СССР, краін сацлагеру. Аб ГЭС апавядалася ў шматлікіх творах паэтаў і празаікаў. Сярод іх вылучаецца раман Петруся Броўкі "Калі зліваюцца рэкі". Гэта тыповы кан"юнктурны твор амаль на 500 старонак, які адышоў у нябыт разам з сацыялістычна-камуністычнай ілюзіяй. Наўрад ці яго з сучасных чытачоў па сваёй волі адужае ўсе старонкі рамана. Шчыра прызнаюся, я – не адужаў: папросту перагартаў старонкі, паразглядаў ілюстрацыі. Назваў Дрысвяты, "Дружба народаў" няма, яны зменены. Возера Дрысвяты называецца Доўгае, як і паселішча на яго беразе. Героі рамана зацята змагаюцца за светлую сацыялістычную будучыню, у якую без ваганняў вераць, ім перашкаджаюць цёмныя сілы мінулага, звязаныя з рэлігіяй, былымі заможнымі гаспадарамі. Гэтым цёмным сілам наканавана загінуць пры святле сацыялістычнай рэчаіснасці. Сімвалам перамогі святла над цемрай і становіцца ГЭС "Дружба народаў". На апошніх старонках твора ёсць такія словы: *"Так і прайшлі гэтыя апошнія хвіліны цемры ў такіх*

*успамінах... Нарэшце, усе яскрава адчулі нарастаючы шум вады і мяккі гуд усярэдзіне будынка. Мінула секунда, дзве, пяць – і раптам яркае, асляпляльнае, незвычайнае для вока святло ўспыхнула на беразе. У першы міг магло здацца, што дрэвы, да таго нябачныя ў змроку, падскочылі да будынка станцыі, а ў цёмную ваду возера быццам насыпалі чорных вугалёў і яны пачалі разгарацца і мігацець... Потым занялося зарыва над "Пергале", над Элгайне і частымі агеньчыкамі асвятлілася Доўгае".*



**Тытульная старонка выдання П.Броўкі 1957 года**

Раман, яўна напісаны паводле сацыяльнага заказу, быў прылашчаны ўладамі. Яго шматразова выдавалі вялікімі накладамі, перакладалі на розныя мовы народаў СССР. Аўтар за свой твор стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Я.Коласа (1959 г.). Дарэчы, па матывах рамана быў створаны балет Г.Вагнера "Святло і цені".

Гісторыі ўзвядзення ГЭС "Дружба народаў" прысвяціў сваю "Паэму братэрства" выдатны літоўскі паэт Эдуардас Межалайціс (1919–1997 гг.). У 1957 г. гэты твор быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Літвы. У 1958 г. паэма Э.Межалайціса была надрукавана асобнай кнігай у перакладзе на беларускую мову (пераклад А.Вялюгіна і М.Калачынскага). Паэма, як і раман П.Броўкі, твор яўна кан'юктурны і пазней аўтар імкнуўся забыцца на яе. Сапраўды, што, акрамя іранічнай усмешкі сучаснага чытача, могуць выклікаць наступныя радкі:

*О, Масква, наша маці і светач!*
*Дарагая, шырок твой разлог!*
*Быццам сонца бязмежнаму свету*
*Свеціш промнямі ясных дарог.*
*Ад Друсвят да Кахоўкі і Брацка –*
*На бязмежжы страчаю сяброў.*
*Абдымаю, харошых, па-брацку*
*І жадаю шчаслівых гадоў.*

Ва ўсялякім выпадку, Э.Межалайціс, дарэчы, аўтар многіх сапраўды таленавітых твораў, старанна ўнікаў кантактаў з супрацоўнікамі Браслаўскага музея, якія збіралі матэрыял пра ГЭС. Музей асабліва цікавілі абставіны знаходжання Э.Межалайціса на Браслаўшчыне, падчас збору матэрыялаў да паэмы. Не ўдалося адшукаць падобны матэрыял і адносна Петруся Броўкі. Вядома, што раман свой ён пісаў у Мінску і Каралішчавічах на працягу 1952–56 гадоў і некалькі разоў прыязджаў у Дрысвяты.

На маляўнічых берагах возера Дрысвяты любіць адпачыць сучасны пісьменнік, аўтар дэтэктыўных твораў Віктар Ледзянёў. У Дрысвятах у яго шмат сяброў і знаёмых. Ён дапамог мясцоваму касцёлу атрымаць якасную лазерную копію алтарнага абраза пачатку XVI ст. "Пакланенне вешчуноў", які лічыцца адным з шэдэўраў мастацтва Беларусі эпохі Рэнесансу. У 2000 годзе В.Ледзянёў быў госцем "Браслаўскіх чытанняў". Цікавы лёс гэтага чалавека: быў афіцэрам спецпадраздзялення, выконваў асаблівыя місіі ў В'етнаме часоў вайны з ЗША, шэрагу іншых краін, як журналіст друкаваўся ў розных перыядычных выданнях. В.Ледзянёў – аўтар некалькіх прыгодніцкіх вострасюжэтных аповесцяў. Дзеянне аповесці "Адская машына" адбываецца ў вёсцы на беразе вялізнага возера. У назве Крысвяты без цяжкасці ўгадваецца назва мясцовасці, дзе любіць адпачываць аўтар. Былы спецназавец Павел Лемяшонак шантажуецца бандай падонкаў і ўступае з імі ў барацьбу. У гэтым супрацьстаянні галоўны герой выходзіць пераможцам, але ён плаціць за гэта вялікую цану. Аповесць надрукавана ў зборніку "Неделя на ликвидацию", Мінск, 1997 г.

Сучасная беларуская пісьменніца Ірына Жарнасек, якая шмат твораў звязвае з рэлігійнай тэматыкай, напісала раман "Будзь воля твая...", апублікаваны ў выдавецтве "Про Христо" у 2004 годзе. Раман прысвечаны двум ксяндзам Друйскага кляштара айцоў марыянаў Антону Ляшчэвічу і Юрыю Кашыры, якія прынялі пакутніцкую смерць разам з вернікамі ў Росіцы падчас гітлераўскай акупацыі. Святары мелі магчымасць выратавацца, але палічылі за лепшае застацца з людзьмі, якіх фашысты вырашылі спаліць жывымі. Каталіцкая царква прылічыла двух ксяндзоў-пакутнікаў да ліку бласлаўлёных. Іх памяць ушанавана ў Росіцы (Верхнядзвінскі раён) і ў Друйскім касцёле. Многія старонкі рамана Ірыны Жарнасек прыводзяць чытача ў Друю, дзе ў 1923 г. быў заснаваны беларускі кляштар марыянаў, дзе гадаваліся і выхоўваліся многія выдатныя асобы. Ёсць апісанні мястэчка, замалёўкі рэлігійнага жыцця.


**Ілюстрацыя да выдання паэмы Э.Межэлайціса 1954 года**

Найбольшае ўражанне пакідаюць старонкі, якія распавядаюць пра вялікую ахвяру бласлаўлёных. Фрагмент з перажываннямі ксяндза Юрыя Кашыры: "*Апошняя ў ягоным жыцці Літанія да ўсіх Святых... Як ён любіў яе! З таго самага дня, калі ляжаў крыжам перад алтаром у Друйскім касцёле, а людзі маліліся за будучага*

*святара, прасілі ў святых апекі над ім, з таго самага дня ў хвіліны небяспекі ён заўсёды прасіў у святых заступніцтва і чуў яго ў сваім жыцці. Цяпер ён прасіў яго на смерць.*

*...Айцец Юрый паволі ішоў па слізкай, счарнелай ад натоўпу дарозе, нёс свой цяжкі крыж, маліўся і чуў, як разам з ім маліліся тыя, што ішлі з ім у свой апошні шлях. Чорныя абгарэлыя дрэвы паабапал дарогі моўчкі слухалі гэтую Літанію...*"




**Ілюстрацыя да рамана І.Жарнасек. *Мастак Ул.Вішнеўскі***

Таксама да трагічных падзей другой сусветнай вайны адсылае чытача сюжэт апавядання "Чорна-белы фотаздымак" сучаснага беларускага празаіка, сцэнарыста Уладзіміра Сцяпана. Між іншым, ён неаднойчы бываў на Браслаўшчыне, у тым ліку падчас здымак некаторых кінастужак. У аснову апавядання пакладзена гісторыя, нібыта пачутая аўтарам ад старога браслаўскага краязнаўцы. У Браславе з інспекцыяй знаходзіўся малады нямецкі афіцэр. Ён ужо вяртаўся ў Берлін, дзе яго чакала нявеста, але афіцэр загінуў ад кулі партызана, якога таксама неўзабаве чакаў шлюб. У помсту гітлераўцы паляць некалькі вёсак, сярод іншых гіне нявеста партызана. Пра гэту гісторыю нагадвае стары фотаздымак, зроблены для афіцэра ў мястэчку. Побач з афіцэрам зняты маленькі хлопчык – будучы краязнаўца. Апавяданне У.Сцяпана надрукавана ў часопісе "Дзеяслоў" (№ 3, 2005 г., с.39-48).

Сучасны беларускі пісьменнік Адам Глёбус, аўтар шэрагу кніг. Сярод іх ёсць зборнік апавяданняў "Браслаўская стыгмата" (Мінск, 2001 г.). Сваю назву зборнік атрымаў ад аднаго з апавяданняў, напісанага ў Вільні ў 2000 годзе. Апавяданне – гэта ўспамін аб гісторыі, якая здарылася з аўтарам і яго сябрам музыкам Алесем Ласём на Браслаўшчыне. А.Глёбус і А.Лось трапілі на Браслаўшчыну ў складзе археалагічнай экспедыцыі, якая даследавала гарадзішча Маскавічы. У вольны час сябры вандравалі па навакольных хутарах, вёсках і мястэчках. У зачыненым Опсаўскім касцёле яны знялі ўкрыжаванне. Неўзабаве ў Алеся адкрылася рана на далоні. Хлопцы ўбачылі ў гэтым Божы знак і пакляліся вярнуць укрыжаванне, калі храм аддадуць вернікам. Здарылася гэта гісторыя ў 1978 г. У газеце "Наша ніва" (3 чэрвеня 2005 г.). Адам Глёбус зноў звярнуўся да яе і распавёў аб некаторых падрабязнасцях вяртання ўкрыжавання ў касцёл.




**Вокладка зборніка апавяданняў А.Глёбуса «Браслаўская стыгмата»**

Найбольш дасведчаным чытачам павінна быць знаёма прозвішча польскага пісьменніка, сцэнарыста, рэжысёра кіно Тадэвуша Канвіцкага. Яго называюць адным з самых таленавітых і загадкавых пісьменнікаў Польшчы. Творы Т.Канвіцкага друкуюцца ў многіх краінах Еўропы і свету. У былым СССР першыя яго творы былі выдадзены ў 1959 і 1963 гадах, але пазней з прычыны палітычных поглядаў аўтара выданне яго кніг перапынілася ажно да перабудовачных часоў. Т.Канвіцкі нарадзіўся ў 1926 г. на шматэтнічнай тэрыторыі непадалёку ад Вільні. Ён сам кажа аб тым, што яго светаадчуванне мае польскі, беларускі і літоўскі пласты. Адзін з вядомых твораў Т.Канвіцкага – раман "Bohiń" (Warszawa, 1988 г.). У перакладзе на рускую мову ён быў апублікаваны ў зборніку "Хроника любовных происшествий" (Масква, 1995 г.). Галоўная гераіня рамана – бабуля пісьменніка Алена Канвіцкая, якая жыла ў невялікім маёнтку Бохінь. У гэтай мясцовасці карані пісьменніка. Гэту мясцовасць пісьменнік дакладна не акрэсліў, ён вымалёўвае яе, карыстаючыся ўрыўкамі сямейных успамінаў. Надзвычай цікава, што Бохінь у беларускім гучанні – гэта Богіна. Такая вёска і былы маёнтак ёсць на Браслаўшчыне. На гэту акалічнасць звярнуў увагу глыбоцкі краязнавец Язэп Бунто. Спробы знайсці іншую мясцовасць на Віленшчыне з такой назвай плёну не далі. Так што не выключана, што карані Т.Канвіцкага сягаюць і на Браслаўшчыну.




**Вокладка выдання рамана Т.Канвіцкага «Бохінь» 1988 года**

Магчыма, і да Браслаўшчыны адносяцца наступныя радкі рамана: "*Так і праходзіць гэты дзень маёй бабулі ў літоўскай, хаця, хутчэй, беларускай вёсцы. Святочны дзень у гаротнай правінцыі, пра якую ніхто на свеце не чуў. У той глушы, дзе хвіліны цягнуцца як гадзіны, а гадзіны як тыдні*". Аднак, разам з тым: "*Мая бабуля Алена ідзе па невялікай*

з тым: "*Мая бабуля Алена ідзе па невялікай краіне, якая падобна на старажытную Грэцыю. Кожнае мястэчка, кожная вёска, кожная ростань шляхоў – гэта гісторыя чалавецтва. Усе тут адзін аднаго ведаюць, усе паміж сабой у сваяцтве, і ўсе ствараюць новую гісторыю, новую міфалогію, новую касмагонію, якую пазней пілігрымы і выгнаннікі разнясуць па цэлым свеце. Тут не вынайшлі хітрых машын, не адкрылі невядомых хімічных элементаў, не ўстанавілі сучасных сацыяльных сістэм. Тут, нябачны і недаступны для вока халопаў, мацаваўся чалавечы дух, мацаваліся душэўныя сілы...*" (пераклад зроблены з рускамоўнага выдання рамана).

У рамане чытач знаходзіцца мудрагелістым перапляценнем сюжэтных ліній, філасофскіх разважанняў аўтара. Сярод герояў – фантастычныя постаці з гучнымі прозвішчамі: Пушкін, Сямашка, Джугашвілі (Сталін), Шыкльгрубер (Гітлер) і іншыя.

Польскі пісьменнік Тадэвуш Даленга Мастовіч шырока вядомы сваімі раманамі "Знахар", "Прафесар Вільчур". Вельмі папулярнымі былі экранізацыі гэтых твораў. Пісьменнік нарадзіўся ў 1898 г. на Глыбоччыне, таму ў шэрагу твораў адлюстраваны рэаліі тутэйшага жыцця, сустракаюцца назвы населеных пунктаў Браслаўшчыны.

Сучасны пісьменнік з Мінска Юрый Татарынаў з'яўляецца аўтарам шэрагу гістарычных аповесцяў. У сюжэт некаторых з іх уключана Браслаўшчына, якую аўтар даволі часта наведвае. Аповесць "Вольный вояж, или Путешествие в Сарью", апублікаваная ў зборніку "Вероотступник" (Мінск, 1996 г.), апісвае падарожжа Сямёна Зорыча, уладальніка маёнтка Хлышчоўка і яго аканома Бароўскага ў Сар'ю. Па дарозе яны знаёмяцца з помнікамі даўніны. Змешчаны гістарычныя замалёўкі Відзаў, Опсы, Браслава, Іказні, Друі. У кнізе "Путешествие в Сарью" (Мінск, 1999 г.) Ю.Татарынаў прысвяціў два раздзелы Відзам і Опсе. Гэтыя творы пісьменніка можна ўмоўна аднесці да мастацкай літаратуры, хутчэй за ўсё – гэта краязнаўчыя нататкі, дарэчы, не заўсёды ўдалыя. З Браслаўшчынай звязаны сюжэт яшчэ аднаго твора Ю.Татарынава "Заботы последнего короля".

Цікавы матэрыял, які расказвае аб сувязях некаторых дзекабрыстаў (А.Поджыа, М.Луніна) з Браслаўшчынай, чытач сустрэне ў дакументальнай гістарычнай аповесці Сямёна Букчына "К мечам рванулись наши руки" (2-е выданне, Мінск, 1985 г.).

Верагодней за ўсё, дадзены агляд твораў мастацкай літаратуры, звязаных з Браслаўшчынай, няпоўны. Пошукі працягваюцца, і іх можа прыняць удзел і Шаноўны Чытач. Новыя знаходкі дазволяць больш грунтоўна адлюстраваць краязнаўчую палітру краю. Трэба мець на ўвазе, што працягваецца і літаратурны працэс. Хацелася б верыць, што літаратараў зацікавяць шмат якія гіс-тарычныя падзеі і асобы Браслаўшчыны. Хіба не зас-лугоўваюць гэтага постаці С.Нарбута, княгіні Алены, падзеі вайны 1812 г., першай сусветнай вайны. Адзін з апошніх прыкладаў – увосень мінулага года ў музеі завя-залася перапіска з маскоўскім пісьменнікам Аляксандрам Косаравым, які вырашыў звязаць сюжэт свайго прыгод-ніцкага рамана часоў вайны з Напалеонам з наваколлем мястэчак Відзы і Казяны. Што з гэтага атрымаецца – пабачым.

У свеце ёсць шмат людзей, якія што-небудзь збіраюць, альбо збіралі, ствараюць сур'ёзныя калекцыі ад класічных паштовых марак да самалётаў. А чаму не збіраць назвы? Узяць да прыкладу тапанімічныя назвы і іх больш вузкі раздзел – гідранімічныя назвы – назвы водных аб'ектаў. Улічваючы, што Браслаўшчына край азёрны, то прапануемы матэрыял звязаны з назвамі азёраў.

**Аляксандр Панцялейка**

# Азёры Браслаўшчыны: колькі іх?


возера Саванар

У выніку праведзенай працы па збору назваў азёраў Браслаўшчыны стварылася даволі багатая калекцыя з 215 пунктаў. Крыніцамі выяўлення сталі картаграфічныя, апісальныя, вусныя матэрыялы. Так, самым старажытнымі дакументамі, якія ўтрымліваюць назвы азёраў і рэк, сталі "Літоўская Метрыка" – збор матэрылаў (спісаў, кніг) вялікакняжацкай канцылярыі ВКЛ XV-XVIII стст. і нататкі вядомага падарожніка XVI ст. З.Герберштэйна ""Запіскі аб Маскавіцкіх справах". З сучасных крыніц для прыкладу можна назваць картаграфічныя выданні апошніх гадоў. Унесці ў спіс іншыя варыянты назваў, насыціць яго версіямі іх паходжання дапамаглі жыхары нашай мясцовасці – доўгажыхары, рыбакі-аматары і проста цікавыя суразмоўцы.

Найперш трэба адзначыць, што спіс назваў азёраў з "прывязкамі" да населеных пунктаў, не канчатковы, як па колькасці так і па саміх назвах. Бываюць выпадкі калі азёры маюць па 4 розныя назвы, прычым кожная з назваў мае сваю версію паходжання і, нярэдка, таямнічае паданне.

Канешне вельмі проста выявіць саманазву, або варыянты, для вялікіх азёраў, якія ва ўсіх на слыху. Больш складаная справа з зусім маленькімі азёрамі. Картаграфічны матэрыял, нават самы буйнамасштабны, у такіх выпадках амаль не дапамагае. Але і тут не ўсё так безнадзейна. На дапамогу прыходзяць людзі: на пытанне – як называецца гэта азярко, дзевяць чалавек адкажаць "ніяк", а дзесяты назаве назву. У час даследванняў склалася ўражанне, што ў пасля-

ваенны час людзі не надта цікавіліся тапанімікай, таму аказалася згубленай каштоўная інфармацыя, у т.л. і па назвах азёраў. Дзеці не цікавіліся ў сваіх бацькоў і дзядуль краязнаўчымі асаблівасцямі свайго краю, а старэйшыя лічылі не надта важным падзяліцца інфарамацыяй.

Бадай кожны жыхар Браслаўшчыны чуў і ведае дзе знаходзяцца азёры **Дрывяты, Дрысвяты, Снуды, Богінскае, Струста**. А вось наступныя назвы напэўна мала хто і чуў: **Балёк, Вотузба, Васілёк, Турмуз, Дзягуціня, Лень, Кракіна, Саманька**. Жыхары райцэнтра, ад малога да вялікага, назавуць **Вялікае і Малое азёры, Лесніčоўскае, Муражскае**. У дадзеным выпадку мы бачым замену гістарычна-картаграфічных назваў на сучасныя назвы, з'яўленне якіх прадыктавана сучаснасцю, а мо і больш простым і прымітыўны падыходам да саманазвы. Не кожны жыхар г.Браслава ведае размешчаныя амаль у межах горада маленечкія **Загноек і Масла**. Яны знаходзяцца па-за межамі распрацаваных турыстычных маршрутаў, удалечыні ад асноўных дарог. Але, здаецца, і такія азёры павінны вабіць і турыстаў і мясцовых жыхароў аб якіх яны не знойдуць ні слова ў энцыклапедыях і не убачаць подпісу на картах.

На дадзены момант удалося лакалізаваць, "прывязаць" да населеных пунктаў, удакладніць назвы больш чым для 200 азераў Браслаўскага раёна. Энцыклапедыя "Блакітная кніга Беларусі" утрымлівае дадзеныя па 118 азёрах. У прыродна-гістарычным кантэксце, калі згадаць час утварэння азёраў на Беларускім Паазер'і, перыяды іх "жыцця", уздзеянне чалавека на іх стан, то становіцца зразумелым, што на працягу 16-18 тыс. гадоў, ад моманту іх утварэння да нашых часоў, іх колькасць увесь час мянялася. Матэрыялы XVI-XVIII стст. не даюць поўнай яснасці пра іх колькасць, а вось на канец XIX ст. ужо вымалёўваюцца і такія паказчыкі. Гэтаму спрыяе вялікая колькасць тагачаснага картаграфічнага матэрыялу. Яго аналіз і сучаныя дадзеныя і сфарміравалі спіс азёраў.

З 215 азёраў, вядомых на сённяшні дзень, дзесьці 10-12% складаюць "вялікія" азёры, г. зн. плошча якіх перавышае 1 кв.км. Да прыкладу прывядзем тыя ж азёры - **Дрывяты, Снуды**, а таксама **Муйса, Багданаўскае, Абаб'е, Вісяты, Доўгае**. Ну, а такія вадаёмы, як **Сельпе, Нязвядка, Лінок, Кодзель, Гілутас** і інш. маюць плошчу у дзесятыя, а многія нават і сотыя часткі квадратнага км, альбо як зручней казаць гектар-паўгектара.

Значны уплыў на змяншэнне колькасці азёраў нанесла ўмяшальніцтва чалавека гаспадарчым уздзеяннем, найперш правядзеннем меліярацыйных і асушальных работ. Яшчэ ў XIX ст. пры пабудове вадзяных млыноў на рацэ Друйка рабіліся штучныя запруды, у выніку падвышаўся узровень вады ў азёрах басейна гэтай ракі. Даволі падрабязна вывучаны працы па асушэнню зямель у басейне р.Друйка ў раёне весак Княжына і Муражы, якія распачаліся ў 1902 г. У выніку зменшылася плошча азёр **Цно, Неспіш, Недрава**, а таксама азёраў **Бярэжа і Святцо**. Паміж апошнімі быў пракапаны канал. Яшчэ большая абніжка узроўня вады сістэмы Браслаўскіх азёраў была дапушчана ў 1931 г. Найбольш пацярпела воз.**Дрывяты**. Яго плошча паменела з 38,5 км2 да 36 км2 , утварылася шырокая, моцна забалочаная,берагавая паласа, якая бачна і па сённяшні дзень. Яшчэ з большым імпэтам меліярацыяй заняліся ў савецкія часы. "Ахвярамі" сталі воз.**Чэкуць** ля Урбанаў, **Поцілта** каля Відзаў і іншыя невялічкія вадаёмы.

* У наступным нумары мы звернемся да гісторыі паходжання назваў азёраў Браслаўскага края

**Спіс азёраў, якія размешчаны ў межах Браслаўскага раёна на літару «А»**

**Абаб'е** – каля в.Абаб'е. Плошча 1,4 км$^2$. Басейн р.Друйка. Выцякае р.Абабіца, злучана пратокамі з азёрамі Дубро, Вялікае Ельна, Дуброк (Отусба). У старажытных дакументах – *Обабье* (Літоўская Метрыка)
**Абакрытэлі** – каля в.Вайнюнцы. Плошча 0,16 км$^2$ . Басейн р.Прорва. Злучана з ручаём Прорва. Існуе іншая назва - Абскрытэлі
**Аболе** – каля в.Дварышча. Плошча 4,67 км$^2$ . Басейн р.Дрысвята. Складаецца з двух плёсаў. Востраў – Каменка.
**Абаліні**с - за 3 км на паўночны захад ад в.Дубіна. Плошча 0,08 км$^2$ . Басейн р.Зах.Дзвіна. Іншыя назвы – Вабалак, Вабалук, Балёк
**Абалікшты** - за 0,9 км на паўднёвы захад ад в.Абалікшты. Плошча 0,07 км$^2$. Басейн р.Дрысвяціца.
**Ажэхава** – каля в.Крукі. Плошча 0,64 км$^2$ . Басейн р.Друйка. Выцякае ручай у воз.Саванар, упадае шмат дробных ручаёў. У старажытных дакументах – *Орехово* (Літоўская Метрыка). Назва трансфарміравалася пад уздзеяннем польскай мовы. На расійскіх картах пазначаецца *Ореховое*
**Азярайцы** – за 4 км на поўдзень ад в.Мілашкі. Плошча 0,15 км$^2$ . Басейн р.Дзісна. Выцякае ручай у р.Янка.
**Азярко** - каля в.Рацюны. Плошча 0,03 км$^2$ . Басейн р.Друйка. Іншая назва – Божае Вока.
**Акуне** – за 1 км на паўночны захад ад в.Спрынды. Плошча 0,01 км$^2$ . Басейн р.Зах.Дзвіна. Іншая назва Акунь. Згодна падання ў возеры няма дна.
**Альбенаўскае** – каля в.Тоўшчына. Плошча 0,49 км$^2$ . Басейн р.Дрысвята.Выцякае пратока ў воз.Богінскае. Іншая назва - Альбенеўскае
**Альшанка** – 0,7 км на захад ад в.Дубіна. Плошча 0,1 км$^2$ . Басейн р.Друйка. Выцякае ручай Ольшня (Вольшня) і ўпадае у воз.Снуды.
**Апіварда** – за 2,5 км на паўднёвы захад ад в.Гірэйшы. Плошча 5,35 км$^2$ (належыць Рэспубліцы Беларусь – 1/5 частка).Басейн р.Дрысвяціца. Іншыя назвы – Апвардай, Піорда.
**Астравіты** – за 0,8 км на ўсход ад в.Юраны. Плошча 0,41 км$^2$ . Басейн р.Друйка.

## *Пра возера Карасіна*

*Даўным-даўно ў гэтай мясцовасці жыла багатая прыгожая дзяўчына. Палюбіла яна маладога хлопца. Але ж бяда – быў ён парабкам на панскім двары. Бацькі ж, зразумела забаранялі ёй сустракацца з ім. Аднак яна іх не слухала і сустрэчы працягваліся. Пан, яе бацька, запёр дзяўчыну ў хаце, а парабку загадаў адсекчы галаву. Даведаўшыся аб гэтай бядзе, дзяўчына не захацела жыць на свеце без свайго любага і кінулася галавой аб зямлю. Адразу з зямлі выступіла вада і неўзабаве ўтварылася невялічкае возерка. Пыркі, якія ляцелі далёка-далёка ўтыварылі балотцы, якіх сапраўды шмат каля вёскі Карасіна. Насамрэч, возера неглыбокае, а ў цэнтры глыбіня зусім малая. Кажуць, што менавіта ў гэтым месцы, на падводнай выспе і сёння дзяўчына сустракаецца са сваім каханым.*

*(запісана ад І.Дудалевай, в.Карасіна)*

## *Выдавецкія навіны*

*Напрыканцы 2005 года ў Мінску пабачыў свет бібліяграфічны даведнік "Национальный парк «Браславские озера", які прысвечаны 10 годдзю з дня заснавання. Склаў даведнік аўтарскі калектыў са спецыялістаў геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ініцыятарам і ідэйным натхніцелем працы з'яўляецца Віктар Раманаў, кандыдат геаграфічных навук. Гэта чалавек, які шмат гадоў даследуе азёры рэгіёна, удзельнік некалькіх навукова-краязнаўчых канферэнцый "Браслаўскія чытанні". В.Раманаў мае дачыненне да стварэння Нацыянальнага парка і некалькі гадоў працаваў у Браславе намеснікам дырэктара НП па навуцы.*

*Даведнік утрымлівае звесткі пра публікацыі, прысвечаныя азёрам Браслаўшчыны, якія ўдалося сабраць аўтарскаму калектыву. Вынік уражвае – спіс літаратуры ўтрымлівае 456 пазіцый, ад публікацый XIX ст. да самых апошніх. Літаратура пададзена па раздзелах: манаграфіі, зборнікі навуковых прац, матэрыялы навуковых канферэнцый, падручнікі і навуковыя дапаможнікі, артыкулы, слоўнікі, даведнікі, энцыклапедыі, атласы, карты, іншыя выданні. Працу з даведнікам робіць больш зручнай геаграфічны і імянны паказальнікі.*

*Безумоўна выданне будзе карысным усім, хто займаецца даследваннямі прыроды Браслаўшчыны. Аднак вельмі шкада, што да ўкладання даведніка аўтары не прыцягнулі спецыялістаў іншых галін – музейшчыкаў, краязнаўцаў, гісторыкаў. Не было б такога, што ў даведнік не патрапілі часам вельмі важныя публікацыі. Да прыкладу, шэраг азёраў рэгіёна згадвае ў сваёй працы вядомы падарожнік, дыпламат З.Гербэрштэйн, які прыехаў па Браслаўшчыне ў 1517 г. А яго ж "Запіскі аб Маскавіцкіх справах" лічыліся геанграфічным бестселерам Заходняй Еўропы. Дзякуючы Гербэрштэйну на еўрапейскія карты трапіла некалькі азёраў Браслаўшчыны. Няма ў даведніку спасылак на даўнія карты. Надзвычай бедна прадстаўлена польская і літоўская літаратура. Нават не ўказаны грунтоўны даведнік А.Віслоцкага "Праз рэкі і азёры Браслаўшчыны". Кніга гэта ў свой час была вельмі папулярна. Між іншым А.Віслоцкі вельмі трапна апісвае катастрафічныя наступствы паніжэння ўзроўню Браслаўскай групы азёр. У даведніку не змешчана згадкі аб працы вядомага даследчыка О.Гедэмана "Даўнія пушчы і воды". Прыкладаў можна прыводзіць шмат, без асаблівай цяжкасці спецыялісты музея маглі б дадаць да даведніка каля 50 пазіцый.*

*Тым не менш, даведнік з'яўляецца вельмі каштоўным выданнем і на жаль, рэдкім. Яго наклад складае ўсяго 100 асобнікаў. Бібліятэку Браслаўскага музея папоўніў асобнік дасланы В.Раманавым. Хацелася б спадзявацца, што пабачыць свет дапоўнены варыянт зборніка.*

## *Нашы землякі*

# *Акіянограф з Браслава –* Канстанцін Шульгоўскі



*Гэты навуковец пайшоў з жыцця вельмі маладым, у 43 гады. Да апошняга працаваў у лабараторыі прамысловай акіяналогіі Атлантычнага навукова-даследчага інстытута рыбнай гаспадаркі і акіянаграфіі, што месціцца ў Калініградзе. Неўзабаве пасля смерці, калегі ісябры К.Шульгоўскага падрыхтавалі і выдалі кнігу, прысвечаную яго памяці. У аснове выдання навуковая манаграфія, падрыхтаваная для абароны ступені кандыдаіа геаграфічных навук. Частку кнігі складаюць біяграфічныя матэрыялы, у т.л. і шматлікія фотаздымкі.*

*Канстанцін Шульгоўскі нарадіўся 14 лютага 1963 г. у Браславе. Вучыўся у СШ№1. у 1981 г. паступіў на акіяналагічны факультэт Ленінградскага гідраметэаралагічнага інстытута, у якім атрымаў спецыяльнасць інжынера-акіянолага. Пад час вайсковай службы быў інжынерам-сіноптыкам. З верасня 1988 г. стаў працаваць у Атлантычным НДРА. Накірунак навуковых даследванняў К.Шульгоўскага быў даволі спецыфічным і мала што скажа недасведчанаму чытачу. Вось, напрыклад, назва пасмертнай кнігі "Крупномасштабная изменчивость океанологических условий в западной части атлантического сектора Антарктики и ёе влияние на распределение криля"(Калініград. 2005). Патлумачым толькі, што крыль – гэта ракападобныя арганізмы, якія зараз вельмі актыўна здабываюцца многімі краінамі. Разам з тым, крыль з'яўляецца важным звяном харчавання многіх відаў марскіх жывёл і вельмі важна выловамі крыля не падрываць экалагічную сістэму акіяна. Сябры адзначаюць, што К.Шульгоўскі склаўся як высокакваліфікаваны навуковец. Ён браў удзел у многіх марскіх экспедыцыях, кантактаваў з даследчымі цэнтрамі Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША. К .Шульгоўскі асабіста і ў сааўтарстве падрыхтаваў 20 навуковых публікацый, у т.л. і ў замежных выданнях.*

*Калегі па працы адзначаюць і чалавечыя якасці нашага земляка. Смяротная хвароба перакрэсліла яго творчыя і жыццёвыя планы, тым не менш, ён паспеў зрабіць свой сціплы ўнёсак у даследванне нашага агульнага дома – планеты Зямля.*



**К.Шульгоўскі ў Лондане**

## Гісторыя ў фотаздымках



На гэтым фотаздымку, зробленным у 1930-я гады, вернікі Браслаўскага праваслаўнага Свята-Успенскага прыхода адзначаюць вадохрышча. Урачыстае набажэнства на лёдзе возера Навята праводзіць святар Аляксей Васілеўскі. Вялізная палынння, з якой будуць набіраць ваду, аздоблена выразаным у лёдзе крыжам. Менавіта возера Навята было традыцыйным месцам адзначэння Хрышчэння ў Браславе.

*Фота з архіва Дж.Конрада*

## Водгукі

У апошнія гады з'явілася шмат прадстаўнічых выданняў, прысвечаных Беларусі. Яны розныя па тэматычнай накіраванасці, па ўзроўню і якасці выканання. Значна менш выданняў рэгіянальных. Такі папулярны турысцкі рэгіён, як Браслаўшчына, можа толькі марыць пра асобны фотаальбом. Матэрыял пра наш край можна сустрэць толькі ў прадстаўнічых выданнях больш высокага рангу. Адно з такіх выданняў – кніга "Витебская область", падрыхтаваная і выдадзеная аблвыканкамам. У кнізе ёсць раздзелы – гісторыя і сучаснасць, гарады і раёны, храналогія важнейшых падзей. Матэрыял пра Браслаўшчыну прадстаўлены чатырма старонкамі. Месца не шмат і, здаецца, для тэкста і ілюстрацый трэба было б адабраць найбольш важнае, істотнае, тое што будзе цікава чытачу. Аднак тэкст складзены настолькі неахайна, абыякава, што звяртаеш увагу менавіта на гэту акалічнасць. Ні слова пра гісторыю рэгіёна, толькі агульныя словы наконт культурна-гістарычнай спадчыны, нікчэмная спроба перадаць унікальнасць прыроды края. Не лепш пададзены ілюстратыўны матэрыял. Прадстўнічыя выданні звычайна друкуюцца на добрую памяць, на ўспамін аб візіце, як запрашэнне наведаць адлюстраваны ў ім рэгіён. Такой якасці выданне хацелася б схаваць у самую дальнюю шуфляду і нікому не паказваць. Укладальнікам кнігі пазначана упраўленне ідэалагічнай працы аблвыканкама. Здаецца ўсё зразумела: якая ідэалогія – такое і выданне.

Яшчэ адно яскравае сведчанне ўзроўню ідэалогіі і ідэалагічных работнікаў публікацыя "Под сенью Браславских оберегов" галоўнага спецыяліста ўпраўлення ідэалагічнай працы аблвыканкама Вольгі Сідаровіч у газеце "Віцебскі рабочы" (4 лютага 2006 г.). выпраўляць стыль, памылкі, недакладнасці артыкула проста немажліва – не хапіла б цярплівасці. Варта прачытаць матэрыял, каб павучыцца таму як не трэба пісаць, а для затраўкі цытата: "*Отражение уроков минувших веков можно увидеть в гербе Браслава: на голубом щите - треугольник с символическим изображением человеческого глаза в обрамлении солнечных лучей. Браславщина в ожерелье озер была естественной оборонной территорией, сторожевым постом древних полоцких земель. сохранилась эта ее роль и во времена Великого княжества Литовского, затем - в Российской империи. Потому, пожалуй, герб назывался «Недреманное око». Но было у него и другое толкование - «Глаз предвидения» ...*

*К.Шыдлоўскі*

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Пастави)